# Як вывучаюць пералёт птушак.

Пералёт птушак—адно з самых цікавых зьявішч прыроды. Сапраўды, хто з вас, таварышы, бачачы, як ляцяць у вырай або з выраю розныя птушкі, не задаваў сабе цэлы шэраг пытаньняў: куды і адкуль ляцяць птушкі, як яны знаходзяць дарогу, з якою хуткасьцю ляцяць, ці зьвяртаюцца ізноў на старыя гнёзды і г. д.

Каб высьвятліць гэтыя пытаньні, а таксама і шэраг другіх, вучоныя прыдумалі рабіць знакі птушкам: надзяваць ім на нагу лёгкія алюміневыя абручыкі з адрасам тае ўстановы, якая гэтыя абручыкі выпусьціла, і чарговым нумарам.

Гэткія абручыкі ў СССР выпушчае Маскоўская Цэнтральная Біостанцыя Юных Натуралістых (БЮН) разам з ЦБ Юных Натуралістых

На абручыку БЮН напісаны яе скарочаны адрас: „Москва, Бюн", № 1, сэрыя гэтага кальца. Так ці інакш злоўленай птушцы, малой ці старой, надзяюць абручык на нагу, № абручыка і места, дзе гэткі адзелі, запісваецца ў асобным журнале, і птушка выпускаецца. Птушка гэтая хутка прызвычайваецца да кольца і жыве пазвычайнаму, толькі з алюміневым пашпартам. Потым яна ў час пералёту можа быць злоўлена птушкаловам, забіта паляўнічым ці натуралістым, якія павінны будуць паведаміць установе час, калі злоўлена птушка і месца і пераслаць абручык. Так мы будзем ведаць, куды і як ляцяць птушкі, а гэта мае вялікае значэньне для навукі.

Да гэтага часу натуралістыя СССР адзелі абручыкі некалькім тысячам птушак, але прысылаюць абручыкаў вельмі мала — каля аднаго проценту (на сто штук адзін). Наогул, пашпартныя птушкі часта пападаюць у рукі людзей, але гэтыя людзі вельмі часта ня ведаюць, адкуль і для чаго адзеты на птушцы абручык, дык так ён і прападае. Гэта дужа зьмяншае навуковую каштоўнасьць працы па абручкаваньню (кальцаваньню).

Кожны сьвядомы грамадзянін Савецкага Саюзу можа дапамагчы справе вывучэньня пералёту птушак, пашыраючы весткі аб такіх птушках сярод насельніцтва, калі-ж хто знойдзе птушку з абручыкам і паметкаю БЮН, трэба запісаць дакладна месца і час знаходкі, назву птушкі і выслаць гэты запіс разам з абручыкам па адрасу: *Масква, Сакольнікі, Растокінскі праезд, 97. Біостанцыя Ю. П. імя К. А. Ціміразева.*

Перасылка такіх вестак па пастанове Саўнаркому СССР праводзіцца дармова.

**Бюро абручкаваньня пры БЮН.**



## ЗЬМЕСТ.



Рэдколегія: БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., СЬЦЯПАНАЎ Х., ЯКІМОВІЧ А.

Адказны рэдактар А. ПЯКАРЧЫК.



Год выданьня 4-ы.

Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!



# Беларускі піонэр

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 18** **ВЕРАСЕНЬ** **1928 г.**

## У КУЛЬТУРНЫ ПАХОД!

Жыць чыста, культурна—значыць жыць багата. Чаму гэта так? Хіба-ж на захаваньне чыстаты ў нашай хаце—на плявацельніцы, шпігінар для прусакоў і клапоў, зубныя шчоткі, мыла—ня трэба траціць грошай?

Так, на ўсё гэта патрэбны грошы. Але гэтыя, праўда невялікія, грошы, якія пойдуць на паляпшэньне нашага быту, прынясуць вялікую карысьць для здароўя.

Гразь, бруд, у якім часта мы жывём, прыносяць для нас розныя хваробы. Гэта дрэнная прывычка няпрыкметна для нас саміх псуе наша здароўе. У такіх нехайных абставінах жыцьця ня можа выхоўвацца новы культурны чалавек.

Мы-ж будуем новае жыцьцё. А дзеля гэтага нам патрэбны і здаровыя, бадзёрыя, моцныя будаўнікі! Мы ня можам будаваць новага жыцьця, абыходзячы ўсякія „драбніцы“ нашага быту. Навучыць моладзь, дзяцей „пляваць у плявацельніцу“, „смаркацца ў хустачку“—гэта як быццам маленькія справы, драбніцы нашага быту. Дабіцца-ж усяго гэтага—гэта азначае прывіць шырокім масам храсткі новага быту, выхоўваць на драбніцах новага чалавека—будаўніка, які нам патрэбен.

Вось чаму зараз комсамолам абвешчаны двухмесячны культурны паход. Але гэта ні ў якім разе ня значыць, што комсамол будзе працаваць над паляпшэньнем пытаньняў быту толькі два месяцы. Гэтыя два месяцы культпаходу павінны паказаць нашай моладзі, як трэба брацца за перабудову нашага быту, даць зарадку, штуршок для далейшай работы ў гэтай галіне.

Двухмесячнік будзе пачаткам культурна-бытавой работы комсамолу. Ідучы нага ў нагу з комсамолам, піонэрская арганізацыя таксама абвясьціла культурна-бытавы паход піонэраў пад лёзунгамі:

1. За вучобу і пісьменнасьць.
2. За культуру ў грамадзкім і асабістым жыцьці.

Грунтуючыся на гэтых галоўных лёзунгах, піонэрскі атрад будзе высоўваць перад сабою канкрэтныя заданьні, якія ён будзе выконваць. Мы тут спынімся на некаторых заданьнях, якія могуць быць узяты атрадамі, фарпостамі, школамі для выкананьня.

Спынімся спачатку на заданьнях для гарадзкіх арганізацый. Узяць-бы хоць такую справу, як *прасоўваньне кніжкі і газэты.*



Заглянеце вы ў пратаколы і дзеньнікі агульных сходаў, камісій. Успомніце, што гаварылася на сходзе ці вечары, прысьвечаным дню друку. Многа добрых пажаданьняў. Ці-ж ня праўда?

Але ў якім атрадзе, школе акуратна вывешваюцца плякаты, лёзунгі, сьпісы кніжак, якія можна раіць прачытаць, ці праводзілася абгаварэньне прачытанай кніжкі?

Ці вывешваюцца ў клюбах водгукі і характарыстыкі кніжак?

Мала дзе гэта робіцца. А гэта ўсё можна і трэба рабіць.

А як мы пашыраем падпіску на дзіцячыя газэты і часопісы? У гэтай справе нам трэба было-б павучыцца ў замежных піонэраў. Там ня толькі піонэры самі выпісваюць і чытаюць сваю газэту, але кожны з іх вярбуе, у сваю чаргу, па некалькі падпішчыкаў і чытачоў. А ў нас ёсьць многа атрадаў, школ, дзе ня знойдзеш дзіцячай газэты, там нават ня ведаюць, якія ёсьць у нас дзіцячыя газэты, часопісы.

Другія атрады і школы маюць сваіх падшэфных, вядуць з імі перапіску, робяць урачыстыя выезды — гэта добра, але яшчэ лепш зрабіць для іх канкрэтную дапамогу: выпісаць ім дзіцячыя газэты, перадаваць ім праз лісты свае ўражаньні аб прачытаных кніжках, рабіць зборы літаратуры для вёскі, раіць, што ім з кніжак трэба набыць. Трэба больш актыўна брацца за прасоўваньне кніжкі і газэты, больш чытаць іх. Лепшага таварыша, чым кніжка—няма.

*Чаму нам ня ўзяць „пад абстрэл“ бруд і заразу?* Вы пагледзеце на сваю кватэру, атрадны ці школьны клюб, клясны пакой. Вы знойдзеце нямала бруду, агаркаў ад папярос, адсутнасьць плявацельніцы. А чаму ня ўзяцца за ачыстку свайго пакою, школы, клюбу? Чаму мы не навучыліся высьмейваць тых, хто ходзіць з чорнымі рукамі, з брудам пад доўгімі кіпцямі нявымытай шыяй, непамытай кашуляй? Організуйце суды над мурзатымі, дабівайцеся акуратнага наведваньня лазьняў па зьніжаных цэнах, завядзеце плявацельніцы. Пакажэце на канкрэтных прыкладах, што мыла, зубная шчотка, ручнік, насавая хустачка—таварышы піонэры,—ад вас возьмуць прыклад і другія.

Пакажэце прыклад гігіены і культуры! *Нашы паводзіны і таварыская ўзаемадапамога.* Скажэце, дзе вы ня знойдзеце прыкладаў боек паміж дзяцей, сварак, насьмешлівых адносін да дзяўчатак? *У аднэй менскай школе вучні, дурэючы, падставілі аднэй вучаніцы „ножку“, ад чаго тая разьбіла сабе галаву, і пасьля ад гэтага асьлепла, застаўшыся, такім чынам, на ўсё жыцьцё калекай.*

Вось вам прыклад! Чаму нам не падумаць раней аб гэтым, не навучыць вучняў, як трымаць сябе ў школе? Нашы вучкомы, фарпосты ўмеюць даваць строгія вымовы, выключаць з школ і г. д., але не вядуць *выхаваўчай* работы, каб папярэдзіць такія дрэнныя прыклады.

Піонэрскія атрады, фарпосты, павядзеце барацьбу за добрыя паводзіны і таварыскія адносіны сярод дзяцей! Вымовы, выключэньні дурасьліўцаў вам нічога не памогуць. Пусьцеце ў ход вашы насьценныя, сьветавыя газэты. Організуйце вашу клюбную работу, наладжвайце на перапынках разумныя гульні, як гэта робяць шмат якія школы, організуйце гурткі фізкультуры, організуйце конкурсы паміж асобнымі групамі, клясамі на лепшыя паводзіны вучняў.

У школе ёсьць прыклады, калі вучні адзін другому ня хочуць дапамагчы разабрацца ў якім-небудзь пытаньні, ня хочуць даць часова падручніка таму, хто ня можа яго набыць з прычыны беднасьці. Дакажэце ўсім вучням, што такіх прыкладаў у савецкай працоўнай школе не павінна быць.

*Што ў нас робіцца ў вёсцы?* Узяць хоць-бы такую справу, як ліквідацыя няпісьменнасьці. Гэта задача надзвычайна важная для вясковага атраду. Няпісьменнасьць у вёсцы вельмі вялікая. Комсамол на сябе ўзяў задачу: кожны пісьменны комсамолец павінен абучыць аднаго няпісьменнага. Піонэры таксама могуць узяцца за гэтую работу. Трэба пачаць вучыць пісьменнасьці сваю матку, бацьку, брата, сястру. Організаваць групу няпісьменных дзяцей і ліквідаваць іх няпісьменнасьць. Дапамагчы грамадзкім організацыям склікаць сход сялян па пытаньню аб ліквідацыі няпісьменнасьці, выявіць, колькі ёсьць у сваёй вёсцы няпісьменных. Узьняць пытаньне перад сялянамі, каб яны па чарзе падвозілі

вучняў у школу, калі яна знаходзіцца на далёкай адлегласьці, арганізаваць для такіх вучняў пры школах начлежкі ў час вялікіх марозаў.

Піонэрскім атрадам трэба наладзіць дапамогу ў вучобе дзяцей батракоў, беднаты падручнікамі, пісьмовымі прыладамі.

*Барацьба за чыстату* павінна праводзіцца і вясковымі піонэрскімі атрадамі. Можна высунуць канкрэтныя лёзунгі, як прасоўваньне мыла ў сям'ю, ачыстка хат ад жывёлы (сьвіней, кур). Пытаньні барацьбы за асобную лыжку, міску, ложак вясковымі атрадамі яшчэ ня ставіліся ў парадак дню. А такое агульнае карыстаньне пасудаю, агульнае жыцьцё з мухамі, тараканамі і хатнімі жывёламі—усё гэта зьяўляецца вельмі добрым рассаднікам розных хвароб, якіх у вёсцы бывае нямала.

Перамагчы хваробу мы ня зможам, калі будзем жыць у брудзе, у сьмецьці... Трэба змагацца з брудам і менш будзе хвароб.

*Курэньне сярод дзяцей, п'янства* сярод бацькоў і нават сярод дзяцей, пабоі дзяцей, карты—вось чаго можна многа знайсьці ў вёсцы.

Чаму піонэрскі атрад сумесна са школаю ня можа арганізаваць вечар супроць алкаголю, паказаць у плякатах, дыяграмах, спэцыяльных кутках сялянам, моладзі сваёй вёскі, якую атруту для здароўя нясе папяроса, гарэлка?

Давайце мы сумесна са школаю, ячэйкай КСМ і грамадзкімі арганізацыямі вёскі павядзем наступ на гэтае зло—атруту нашага арганізму. Пакажэце на прыкладах, да чаго прыводзіць п'янства: п'яны бацька ўчыняе бойку, пажар, калечыць сябе і сваіх дзяцей.

Некаторыя атрады Масквы пачалі арганізоўваць атрады па барацьбе з курэньнем і разгарнулі ўжо вялікую работу.

Мы пералічылі, якую работу могуць узяць на сябе піонэрскія атрады у час правядзеньня культурна-бытавога паходу. Усіх прыкладаў мы тут і не пералічвалі. Кожны атрад гэтую работу павінен знаходзіць сам на месцы, у сваім раёне, мястэчку, вёсцы, школе, атрадзе.

Культурна-бытавы паход піонэрарганізацыя абвясьціла з 1-га кастрычніка да 7-га лістапада. Але ня трэба думаць, што мы будзем праводзіць культурна-бытавую работу толькі ў гэты тэрмін.

Гэты месяц павінен палажыць пачатак культурна-бытавой работы, якая разьлічваецца на доўгі тэрмін.

Перабудоўваючы культурна нашае жыцьцё, змагаючыся за элементы новага быту, пачынаючы з драбніц усяго адмоўнага, мы будзем рабіць вялікую справу па выхаваньню новага чалавека.



# ЗАПІСКІ ВУЧАНІЦЫ.

*Апавяданьне* **А. Грыгор'евай.**

*Мал.* **П. Гуткоўскага.**

*У апавяданьні А. Грыгор'евай надзвычайна яскрава абмалявана жыцьцё нашае сучаснай школы. Тут і радасьці і горасьці школьных будняў. Тутжа вельмі дакладна выяўляюцца і некаторыя недахопы нашай сучаснай школы. Гэта апавяданьне мы раім прачытаць ва ўсіх школах усім вучням і абгаварыць яго.*

**15 верасьня.**

15 верасьня! Пят-наццатае верасьня!

Сёньня ў школу. Урррра!..

Вось і прыпоўз гэты жаданы дзень.

Тры з паловаю месяцы цягнуўся летні адпачынак, і апошнія тыдні я ўсё падлічвала: колькі часу яшчэ засталося да пачатку заняткаў. Я вельмі люблю сваю школу.

І вось я йду туды, як на нейкую урачыстасьць. Да мяне забегла мая таварышка Вера Корнева, і радасныя, вясёлыя, са сьмехам, мы зашагалі да знаёмага шэрага будынку.

Мы прышлі на цэлую гадзіну раней, але ля школы ўжо сабраўся вялікі гурт хлапцоў і дзяўчат... Амаль усе знаёмыя і ўсе вясёлыя, шумлівыя, залацістыя пад сонцам, якое таксама ўсьміхалася ўсім з ярка-сіняга неба. За хвіліну абкружылі нас...

— Корнева!.. Аля!..

— Добры дзень, Рыва, Ліда! Дзе была ўлетку? Ой, ня цісьні так руку! Ну, цябе, Наталька!.. Ах, якая ты дужая стала!..

— Як Маркіна выцягнулася!.. Не пазнаць! Ах, як добра!.. Паглядзеце на Алю!.. Ах, як ты добра загарэла, Сара!

— А я ў Крыме была!

— А я ў Сібіры, у тайзе. Лесу, лесу колькі там!

— А я лета правяла на Волзе!

— А я на царкоўным двару. Ты памятаеш—супроць нас царква...

Радасьць, радасьць! Але больш усяго радаваліся адзін другому хлопцы. Вось, напрыклад, сустрэліся тры таварыша: Грыша Шафір, Бора Руткоўскі і Вася Чалаў. Сустрэліся—захліпаючыся, сказалі па некалькі слоў—і давай дубасіць адзін другога. На іх мове гэта азначала:

— Усё як і раней. Мы з табою яшчэ таварышы.

Нехта з хлопцаў закрычаў:

— Зося Іванаўна!

Паказалася наша клясная настаўніца.

Яна выкладала грамадазнаўства і геаграфію. Мы віталі яе. На дзіва працавіты і чэсны чалавек. Мы любілі яе.

Празьвінеў званок, і мы шугнулі ў клясу. К вялікаму нашаму жалю і абурэньню мы засталіся ў старой клясе ўнізе: у ёй мы прасядзелі ўжо два гады. Гэта цесны, сыры пакой... У мінулую зіму амаль уся кляса кашляла і чыхала, з насамі было клопату...

Вучні зашумелі:

— Што гэта такое?.. Гэта немагчыма!.. Усё мы ды мы!.. Няхай другія паспрабуюць! Мы два гады цярпелі... Гэта няправільна!..

— Па-правілу—шостыя павінны быць на версе.

А Васька Чалаў трагічна, як акцёр:

— Вучымся, вучымся і ўсё ў адной клясе сядзім!.. Давайце баставаць!

— Вось яшчэ выдумаў! Нам баставаць! Хутчэй ужо настаўнікі нам „лёкаут" абвесьцяць.

— Не, трэба організавана. Няхай Корнева ад імя клясы папросіць.

— Гэта—справа! Давай! Просім!

Вылучылі Веру Корневу для перамоў. Яна—энэргічная, гаварлівая, сьмеласьці ў яе хопіць. Яна крыху перарасла шостую групу, ёй будзе шаснаццаць гадоў. Засядзелася дзяўчына.

Пачуўся другі званок. Вучні рассыпаліся па сваіх мясцох. Адчыняюцца дзьверы. Усе прыціхлі. Але не... гэта—не настаўнік.

У клясу ўвайшлі навічкі і селі за парожнія парты. З усіх бакоў пачулася шыканьне. Колкі сьмех, „шчырая“ крытыка. Такі ўжо лёс навічкоў. Пройдзе час, і яны ў сваю чаргу будуць адпушчаць сьмешкі па адрасу другіх „нешчасьлівых“. Але гэтыя навічкі не засароміліся,—і насьмешкі хутка спыніліся. Праз некалькі хвілін навічкі трымалі сябе як дома.

Нязвычайны шум падняўся ў клясе.

Адразу шум зьмяніўся кароткай цішынёю, а потым раздаўся гром воплескаў. У клясу ўвайшла любімая Зося Іванаўна.

Яна ўсьміхнулася, прывіталася з намі.

Стала ціха. І тут паднялася Вера Карнева. Яна перадала нашу просьбу. Адказ быў самы няспрыяючы. Аказалася, што пятая група, якая павінна займацца на нашым месцы, вельмі вялікая, а таму ёй далі „нашу“ вялікую клясу, сьветлую, сухую, з вялікай ярка-чорнай дошкаю, тады як наша дошка нейкая рыжая, страшная...



*Ах, якая ты дужая стала!*

Пасьля нездаволеных крыкаў і пацяжных уздыханьняў Зося Іванаўна сказала прамову, якую гавораць усе настаўнікі перад пачаткам заняткаў—што ў гэтым годзе заняткі будуць больш сур'ёзныя, што мы ўжо вялікія і таму павінны сьвядома адносіцца да школьнай работы, чаго ня было ў мінулым годзе, і да таго падобнае. Потым пачаліся роспыты, як хто правёў час, што бачыў. Вучні расказвалі з вялікаю ахвотаю.

Пасьля Зосі Іванаўны прышоў настаўнік хэміі—высокі, з маленькімі вусікамі. Гэта быў першы яго ўрок. Хэмік аказаўся вельмі нэрвовым чалавекам. Як толькі пачаў, дык і забегаў па клясе, як быццам ён апёкся. Тлумачачы нам тайны хэміі, ён, не шкадуючы, шараваў невінаватую крэйду і злосна перабіраў у руках анучку. І хэмія і настаўнік усім вельмі спадабаліся.

Пасьля хэміі быў агульны сход вучняў. Як і трэба было чакаць, першае слова—Аўгіньні Васільлеўні, загадчыцы школаю. Ад прыцёку пачуцьцяў яна ўсхвалявалася і дражачым голасам пачала:

— Дарагія таварышы! Пасьля трохмесячнага перапынку мы, адпачыўшы добра, вярнуліся ў школу, каб з новымі і сьвежымі сіламі ўзяцца за работу. Падводзячы вынікі работы за мінулы год, мы, на жаль, павінны адзначыць, што сярод вучняў было ўсяго дваццаць пяць процантаў пасьпяховасьці. У гэтым годзе мы павінны давесьці пасьпяховасьць да поўных ста процантаў. Гэта павінна быць нашаю мэтаю. І так—за работу, таварышы!

Прамова Аўгіньні Васільлеўны была больш даўжэйшай,—я перадаю толькі яе зьмест. Вучні з павялічанай энэргіяй сыпалі воплескі па адрасу галавы школы.

Потым выступіў комсамолец Ямпольскі—рабфакавец, кіраўнік нашай комсамольскай фракцыі. З польскім акцэнтам і няправільнымі націскамі ён выпаліў гарачую і нават страшную прамову. Злосным тонам ён упікнуў гультаёў і зявак за дрэнныя посьпехі ў мінулым годзе і напалохаў нават цяжкімі карамі. Вучні не задаволіліся яго словамі. Але канец яго прамовы, як і патрабавалася з пункту

гледжаньня нясумуючай комсамоліі, быў запальваючым:

— Вучэцеся! Добра вучэцеся! Асьвета— наша перамога. Няхай жыве працоўная школа!

Самыя моцныя воплескі вырваў ад вучняў гэты комсамолец. Добры хлопец!

**19 верасьня.**

Ужо чацьверты дзень я хаджу ў школу. Буйная радасьць павольна пераходзіць у спакойнае задавальненьне.

Прачынаючыся раніцай,прыемна думаць, што зараз вось пойдзеш у школу. Штонебудзь новае там уведаеш. І таварышоў убачыць цягне. У мяне моцнае сяброўства з некаторымі. Справы ёсьць розныя. Многа цікавага.

Мяне выбралі клясным старшынёй. Ой, нялёгкі гэта абавязак! Я павінна глядзець, каб вучні ня дурэлі да прыходу настаўніка. А як тут справіцца, калі ў клясе 37 чалавек! Усе яны сваімі здаровымі горламі стараюцца перакрычаць адзін другога. Стаіш у адным кутку—тут ціха, але калі толькі кінешся супакойваць у другім кутку, дык „калатуша“ падымаецца ў першым. Больш усяго дурэюць тры хлопцы: Грышка Шафір, Барыс Руткоўскі і Вася Чалаў.

Грышка Шафір—піонэр, якога ў мінулым годзе ўсюды выбіралі, а цяпер ён нікуды не папаў, ня гледзячы на ўсе жаданьні яго; гэта вельмі засмуціла самалюбівага хлопца, і ён як-бы рашыў:

— Ня выбралі нікуды—да вот-жа вам! Буду дурэць і бузаваць!

І ён „бузуе“ ва ўсю: крычыць, чапляецца да кожнага, пагражае кулакамі пад партай. Другі дурасьлівец Барыс Руткоўскі—самы маленькі ў групе, яму 12 гадоў, вельмі здольны, жывы хлапчына. Ён ніколі ня рыхтуе урокаў і заўсёды ўсё ведае.

Трэці—Вася Чалаў—таксама здольны вучань... Чорт ведае, што яны робяць.

Я без адпачынку бегаю па клясе і бесьперастанку крычу:

— Барыс, пакінь скакаць па партах!

— Лукіянаў, ты-ж сам да яе чэпішся, а пасьля крычаць будзеш, калі яна да цябе.

— Шафір, што ты?.. А яшчэ піонэр, усім дзецям прыклад! Ня сорам табе біцца?

— Петрык, зьнімі ногі з парты!

— Пакінь стукаць, Масковіна!

Моцны шум раздаецца ў другім кутку. Сьпяшаюся туды.

— У чым справа?

— Ён забраў у мяне шапку!—стогне Луткін.

— Ялісееў, як табе ня сорам?.. Ты— кляском, сябар старастату, павінен дапамагаць мне, а сам бузуеш.

Ялісееў засароміўся і аддае Луткіну шапку. Вархал у клясе перарazaeцца аглушлівым піскам. Гэта Алава скубанула Запалаву. Сьпяшаюся да іх. Але тут, на маё шчасьце, уваходзіць Павал Пятровіч — настаўнік прыродазнаўства. Спацеўшы, я саджуся на месца. Наступае цішыня.

— Ну-с, — грубым басам пачынае Павал Пятровіч,—што вы праходзілі ў мінулым годзе?

У мінулым годзе ён з намі не займаўся.

— Няхай скажа Маркіна.

Яна ўстае. Гэта—старэнная, мала здольная дзяўчынка.

— Мы,—гаворыць яна чырванеючы (вучыцца яна ў нашай школе ўжо трэці год і заўсёды чырванее і сароміцца),— мы праходзілі рыб... Вывучалі акуня і парася (замест карася, яна сказала „парася“).

Сьмех раптам пракаціўся па клясе. Нават настаўнік дабрадушна ўсьміхнуўся.

— Дык вы ведаеце ўсю ўнутраную будоўлю акуня. А ну, Брадоўская, раскажы нам, дзе знаходзіцца сэрца?

Брадоўская, ціхая, нясьмелая дзяўчынка, заўсёды маўчыць, як кіно.

Вучыцца—так сабе. Пачынае яна расказваць і, дайшоўшы да сэрца акуня, з саромлівасьцю зьбіваецца. Сапраўды— дзе ў акуня сэрца?

— Ціхаў,—зьвяртаецца Павал Пятровіч да вучня, які сядзеў наперадзе,—дзе ў акуня сэрца?

-- Тут,—і Ціхаў паказвае на сваё сэрца.

Зноў выбух сьмеху.

Выклікаецца яшчэ адзін вучань. Ён паведамляе:—Сэрца акуня знаходзіцца з-заду ад жабраў.

Пасьля мы распачынаем вучыць насеньне агародніны і збожжа.

— Корнева, раскажы нам, з чаго складаецца насеньне фасолі.




Устае Корнева, толькі што абраны член вучкому.

— „Прапала дзяўчына!“ думаю я і гляджу на яе вытарашчаныя вочы, зьбіраючыся падказаць.

Яна ніколі ня рыхтуе ўрокаў і нічога ня ведае, і гэта не перашкаджае ёй лічыцца аднэй з лепшых вучаніц. Устала яна і пачала тлумачыць пра насеньне фасолі. Што сталася з ёю? Няўжо на яе такі зрабіла уплыў прамова Аўгіньні Васільлеўны і комсамольца Ямпольскага... Так, Вера Корнева парашыла ўзяцца за розум. Сапраўднае цуда!

Пасьля прыродазнаўства ў нас было грамадазнаўства. Паўтаралі пройдзенае прыгоннае права, фабрыку, разьвіцьцё рэволюцыйных ідэй, рэволюцыю. Дайшлі да нашых часоў. Разглядалі цяперашні стан сялянства, загады.

— Шафір!—зьвярнулася Зося Іванаўна, скажы: якія адносіны Савецкай улады да саматужнікаў?

— Мм...—запнуўся Шафір,—да саматужнікаў... Добрыя адносіны.

— Як добрыя?

— Добрыя, самыя лепшыя.

— Вучні засьмяяліся.

Зося Іванаўна выклікала Руткоўскага, і той з толкам расказаў, якія адносіны Савецкай улады да саматужнікаў.

**24 верасьня.**

Сёньня Грыша Шафір прынёс такую паперку, якая ўзбурыла ўсю клясу. Гэта была выразка з газэты, дзе гаварылася, што Наркамасьветы разглядае праэкт аб адмене задаваньня ўрокаў на дом.

Прызнаюся, як я ня люблю вучобу, але такая пэрспэктыва паказалася мне вельмі прыемнаю. Ня трэба будзе марнавацца за хатнім сталом над перапісваньнем апавяданьняў, у якіх гаворыцца, што у „Франса ёсьць авечка, а Іосіф добра йграе на клярнэце“. Ня трэба будзе завучваць нямецкіх дзеясловаў і клеіць розныя піраміды і стажкі. Добра, вельмі нават добра!

Як толькі Зося Іванаўна ўвайшла ў клясу, з усіх бакоў пасыпалася:

— Праўда, Зося Іванаўна, што ня будуць задаваць урокаў на дом?

— Чыталі, Зося Іванаўна, у газэце? Праўда, што так і будзе?

— Не гаварэце ўсе разам,—адказала настаўніца.—Гэта паведамленьне я прачытала, але асаблівага значэньня яму не надаю. Газэта часта любіць апярэджваць падзеі. Часта яна заскаквае наперад за некалькі месяцаў. Гэта—папершае. А, падругое, наўрад ці гэты праэкт будзе ўхвалены, бо нічога добрага ад яго не

атрымаецца. Вы памятаеце, у мінулым годзе да зімовага адпачынку мы не займаліся ў клясе, урокаў не задавалі, і ў выніку вышла тое, што вы нічога ня ведалі. Часу ў нас было мала, і таму трэба было вельмі добра вучыцца, каб ведаць усё толькі з гутарак у клясе. Калі-ж мы пачалі па географіі пісаць пляны, задаваць урокі, справа пайшла значна лепш.

Кляса, расчараваная, маўчала. Вядома, Зося Іванаўна была права, але ўсё-такі...

**9 кастрычніка.**

Сягоньня ў школе экскурсія на тэкстыльную фабрыку.

Трэба зьявіцца ў 12 гадзін. Устала я ў 9, паглядзела ў вакно... зноў гэты прыкры, мокры сьнег! Кідаецца і растае, кідаецца і растае. Сіл няма. Ну, як я без галёш выйду на вуліцу? Мама ня пусьціць. Праўда, мае таварышкі, Вера і Зося, узяліся дапамагчы мне. Яны ўчора былі ў мяне і абяцалі прынесьці што-небудзь.

— Аля, калі мая матка пусьціць мяне без галёш, абавязкова прынясу табе іх,— гаварыла мне Зося.

— Галоўнае, Аля, ня „падай духам“,— падбадзёрвала вясёлая Вера.—Што-небудзь мы зробім.

Абяцаць то яны паабяцалі, але ўсё не паказваюцца. А тут бацька ўздумаў пажартаваць з мяне. (Ён уявіў, што гэта—уцеха).

— „Ня сумуй, Аленка,—сказаў ён.— Жыць табе засталося яшчэ гадоў 50,— пасьпееш па фабрыках наезьдзіцца“.

Я адказала яму на гэта са злосьцю. У вакне (мы жывем на першым паверсе) паказалася знаёмая кепка. Вера!

Я пабегла адчыняць. Увайшла Вера і ўрачыста дастае з газэты пару галёш. Я паглядзела на яе ногі—на лёгенькіх жоўтых чаравічках нічога ня было. —А як-жа ты?—спытала я.

— Я? Глупства. Папершае, мае туфлі цэлыя, а падругое, гэта не мае галёшы.

— ?!..

— Гэта бабуліны. Я ўкрала іх. Яна ня ведае.

— А калі ёй патрэбны будуць?

— Ну, дык што-ж? Яна старая, можа і дома пасядзець. А табе трэба на экскурсію.

Бабуліны галёшы прышліся паназе— і мы пабеглі.

Ува ўсіх вучняў і настаўнікаў узьняты настрой.

У вагоне трамваю мы вядзем шумныя гутаркі, моцна сьмяемся. Усякая экскурсія прыводзіла нас у вялікае захапленьне.

На фабрыцы нас сутрэў кіраўнік экскурсіі.

Перш чым паказаць вытворчасьць, ён прачытаў нам меленькую лекцыю.

Шмат хто з вучняў, ня прывыкшы да фабрычных абставін, адразу пачалі адчуваць сябе дрэнна. Адразу забалела галава, стала моташна. Зося нават і зусім ня вытрымала і вышла на сьвежае паветра. І сапраўды, у некаторых цэхах фабрыкі для сьвежага чалавека было амаль што немагчыма вытрымліваць такі рэжым...

Напрыклад, у сушні тэмпэратура даходзіць да 120°, і кіраўнік паведаміў, што некаторыя экскурсанты проста млелі. На наша шчасьце сушня не працавала— і ўсё-такі, пасьля некалькіх хвілін, з нас, як у лазьні, ліўся пот. Як-жа вытрымліваюць рабочыя: у фарбавальным аддзяленьні паветра таксама няпрыемнае. Затое некаторыя цэхі вельмі спадабаліся. Нам нават выходзіць не хацелася з машыннага аддзяленьня, дзе працаваў чысьценькі паравы рухавік. Мы с паднятым настроем глядзелі на бліскучыя поршні, на вялізнае энэргічнае рухавое калясо. Ад яго ўва ўсе бакі ідуць жывыя пасы, якія праводзяць энэргію па ўсёй фабрыцы. Я са зьдзіўленьнем уведала, што самыя моцныя пасы робяцца... з крапівы!

— Гэта што--школа?—зьвярнуўся да мяне машыніст.

— Так, школа. А часта наведваюць вас экскурсанты?—запытала я.

— Так, ходзяць да нас многа. Розныя ходзяць. Нядаўна мангольцы прыходзілі.

— Збрыдзелі вам...

— Як-жа так. Чаму збрыдзелі? Не, мы рады. Вучэцеся, гэта раней нельга было. Цяпер можна. Усе павінны цяпер ведаць. Я сам на старасьці гадоў машыністым стаў.

— А вы машыну сваю, мусіць, любіце, га?

— Вядома, прывык. Пра ўсю яе, да самай маленькай шрубкі, расказаць магу. Машына вельмі вялікая, паравы кацёл у 12 атмасфэр. А ну, ты скажы мне,—

зьвярнуўся ён да Веры Корневай,—колькі фунтаў у атмасфэры?

Я і Вера пераглянуліся... Мы гэтага яшчэ не праходзілі. Чырванеючы, Вера адказала:

— Ня ведаю...

— Ня ведаеш. Эх, ты!..

Ён памаўчаў і дагаварыў:

— 15 фунтаў. Вось яно колькі.

Добры стары. Наогул нас усюды сустракалі вельмі добра, адказвалі на ўсе пытаньні. Кіраўніку спадабалася наша гутарка.

— Уважлівая,—сказаў ён.—Добра слухае і многа пытаньняў задае. Ён з натхненьнем „на закуску“ расказаў нам, як робіцца штучны шоўк.

Экскурсія прайшла вельмі добра. Вучні толькі вельмі замарыліся.

**10 кастрычніка.**

Сёньня, ідучы ў школу, я сустрэла Ганну Іванаўну, настаўніцу расійскай мовы— тую самую, якую некалькі дзён таму назад мы хацелі замяніць Мікалаем Паўлавічам. Яна толькі што вярнулася з адпачынку і ўрокаў яшчэ не праводзіла. Яна стаяла каля вітрыны кніжнай крамы і разглядала кніжкі. Выгляд яе быў даволі няважны. З-пад лёгкага пальтоціка (а халады былі ўжо досыць добрыя), зьнізу запырсканага гразёю, выглядалі падраныя галёшы. Гостранькі, нядобры твар яе пахудзеў. Яна кашляла. Паглядзеўшы на яе, я вельмі засаромілася: стала неяк шкада і сорамна...

Гэтую кволую жанчыну мы хацелі зволіць з школы, адабраць яе заработак.

Ганна Іванаўна выклада ў 5-й групе расійскую мову, і многія вучні, у гэтым ліку і я з Верай, былі вельмі нездаволены яе выкладаньнем. Галоўнай рысай яе характару была абыякасьць да вучобы, бязуважнасьць.

З ёю мы працавалі бяз усякага мэтаду, кожную хвіліну пераходзілі ад аднэй тэмы да другой, з гораду на вёску, з вёскі на фабрыку, з фабрыкі на прыгоннае права, з прыгоннага права зноў на горад.

Бязладзіца была вялікая. Другім яе недахопам было тое, што яна больш месяца трымала ў сябе пісьмовыя працы. Адну працу яна пратрымала паўтара месяцы. Ну, ці-ж можна так працаваць? А адносіны да вучняў?



*Чорт ведае, што яны робяць...*

Адзін раз яна правярала веды вучняў і, вядома, пытала самых горшых: аднаго, другога, пятага...

— Ну, здаецца, усіх пытала, сказала яна.— Хто-б яшчэ павінен у нас ня ведаць. Ягніцкая, а ну раскажы...

На вялікі жаль і сорам Ганны Іванаўны, Ягніцкая адказала правільна. Гэткія адносіны настаўніцы пакрыўдзілі нас. Яна заўважыла гэта і прашаптала нешта накшталт прабачэньня. Ня любілі вучні Ганны Іванаўны. У мінулым годзе яшчэ неяк цярпелі, думаючы, што яе заменіць Мікалай Паўлавіч—добры настаўнік. Аб ім многа добрага расказвалі нам яго вучні. Але не шанцавала нам: Ганна Іванаўна засталася з намі. Ранейшыя 4-ыя групы,

а цяпер 5-ыя, зусім ня хочуць адпусьціць Мікалая Паўлавіча, але мы таксама хочам яго! Толькі Мікалая Паўлавіча!

І вось на клясным сходзе было вырашана: Вера Корнева, як член вучкому, ад імя клясы на школьным савеце абвесьціць наша запатрабаньне. На якой аснове мы папусьцімся 5-ым групам, калі Мікалай Паўлавіч павінен займацца ў 6-ай з намі! Да таго-ж ён сам хоча да нас.

На школьным савеце інакш паглядзелі на справу—і нашага патрабаваньня не задаволілі. Нядобра так для настаўніцы. А можа ў гэтым годзе яна будзе займацца лепш, бо ў мінулым годзе ў яе былі сямейныя няпрыемнасьці. Памерлі бацька і брат.

Мне здаецца, што школьны савет, які складаецца з настаўнікаў, зрабіў ня так, як трэба было. Вышла тое, што на абывацельскай мове завецца кумаўством. А з вучнямі нічога ня зробіцца, калі яны яшчэ год павучацца ў Ганны Іванаўны. Бо ўсё роўна яна б засталася ў школе, займалася-б, калі ня з шостымі, дык з пятымі. А таго ня ўлічыў школьны савет, што ў шостых запатрабаваньні большыя, чым у пятых.

На першых уроках Ганна Іванаўна прышла ня ў зусім добрым настроі.Ranюхала. Вучні сустрэлі яе ня зусім густымі воплескамі. Я адчувала сябе нядобра. Магчыма, каб выклікаць лепшыя адносіны вучняў, Ганна Іванаўна стала апавядаць аб сваім вандраваньні на Поўнач. Яна была за Палярным колам. Паведаміла яна нам аб быце паўночных жыхароў — зыран. Многа яшчэ расказвала Ганна Іванаўна, памахваючы рукамі і штохвілінна папраўляючы акуляры. Яна старалася паказаць, што лічыцца з думкамі клясы, і часта перарывала сваё апавяданьне пытаньньнямі, як, напрыклад:

— Можа вам не зразумела? Магчыма, хто-небудзь ня згодзен са мною? Кажэце, кажэце...

Старэннай і ўважлівай была на першым уроку Ганна Іванаўна. Але пасьля, угледзіўшы, што вучні прыціхлі, зноў зрабілася, як і раней.

Якое дзіўнае ў нас разьмеркаваньне ўрокаў! У мінулым годзе іх было пяць, і ні адзін ня быў прысьвечаны граматыцы,—ортографія кульгала на зьдзіўленьне. Цяпер-жа ўсяго чатыры урокі— і на двух мы выключна займаемся граматыкай. Сьмешна! У ніжэйшай групе пісалі пісьмовыя працы, рабілі пісьмовыя даклады, а ў вышэйшай—вучым дзеясловы ды розныя спражэньні... Ах, як я іх ня люблю!..

**6 лістапада.**

Увесь горад трасцаю трасе. Усюды рэжуць, клеюць, малююць, пішуць, шыюць, прыбіваюць!..

Гэта рыхтуюцца да гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі. У школе ў нас работа ідзе ва ўсю. Быў усяго адзін урок. Пасьля былі рэпэтыцыі і ўпрыгожвалі школу. Усюды кавалкі рознакалёрнай паперы, фарбы, ножніцы, клей і схіленыя галовы вучняў. Робяць лёзунгі. Вядома, шмат якія з іх прыдзецца выкінуць, але шмат будзе і добрых.

На сцэне рэпэтыруюць вельмі арыгінальную п'есу, напісаную Гінзбургам, вучнем 7-ай групы. Здольны хлапчына! Ён вядома і рэжысэр. Бегае, крычыць, сварыцца, паказвае нязграбным вучнямакторам, чаго ён ад іх хоча. З усіх сіл працуе хлопец і ад вучняў вымагае таго-ж. Рэч вельмі цяжкая. Ды яшчэ Гінзбург хоча зрабіць з яе „жывыя карціны", накшталт кіно. Паглядзім, што будзе.

Гэта—удзень. А ўвечары было выступленьне 1-ых груп. Школа знаходзіцца блізка ад нашай кватэры, і я забегла паглядзець.

Паслухала хор, дэклямацыю малышоў. Досыць сумна, а малышам вельмі падабаецца. Шумяць, крычаць, на кожную драбніцу адказваюць воплескамі. Шчочкі гарацъ, вочкі пабліскваюць.

Я тут сустрэлася з сваёй таварышкай Сімай Равінскай. Вясёлая, харошанькая дзяўчынка, вучыцца сярэдне. Асабліва дрэнна па роднай мове: робіць шмат граматычных памылак, і, ня гледзячы на гэта, абрана ў культкамісію. Гэта тлумачыцца тым, што з усімі вучнямі яна ў надзвычайна добрых адносінах. У нас усё гэта проста. Выставілі кандыдатуру Равінскай.

— А, Равінская!.. Яна добрая дзяўчына! Чаму-ж не галаснуць за яе!

Многія вучні ў нас вылучаюцца такім чынам.



*На фабрыцы нас сустрэў кіраўнік экскурсіі.*

полк і навучалі там няпісьменных і малапісьменных чырвонаармейцаў. Кожнаму „настаўніку“ давалася група, чалавек дзесяць, „настаўнік“ павінен быў увесь час займацца з гэтай групай. Пакуль чырвонаармейцы былі зусім няпісьменнымі і ад настаўніка патрабавалася невялікая колькасьць ведаў—справы йшлі вельмі добра. Але з цягам часу, калі вучні станавіліся больш сьвядомымі, а часам і вельмі здольнымі да навукі, зялёным настаўнікам было куды цяжэй. З Рывай Фішзон здарыўся нават такі выпадак.

Дала яна сваім вучням задачы. Выклікала аднаго чырвонаармейца да дошкі. Той рашыў задачу правільна. І ўсе вучні рашылі правільна. Але Рыва сама рашыла задачу няправільна, на правох настаўніцы, падышла да дошкі і пачала выпраўляць правільнае рашэньне чырвонаармейца. І, вядома, наблытала. Тут вучню прышлося растлумачыць настаўніцы сутнасьць задачы. Сьмеху было нямала. Праўда, такі выпадак быў адзіночным, і дывізіён увогуле быў вельмі здаволен нашай работай. Наша работа ў Ізмайлаўскім лясьніцтве, здаецца, ня так прадукцыйна. У мінулым годзе мы больш дапамаглі ў працы лясьніцтва.

*(Канец будзе).*

Падышла Равінская да мяне. Гляджу—у яе завязана вока.

— У чым справа, Сіма?

— Ах, Аля!.. Гэта Шышкоў абліў мне вока азотным квасам. Даваў нюхаць і неяк абліў. Я нічога ня бачу, вока зацягнула...

Дома я задала пытаньне маме: якія могуць быць вынікі, калі ў вока папаў азотны квас?—І атрымала нечаканы адказ:

— Сіма можа стаць сьляпой.

**8 лістапада.**

Учора адбыўся вечар старэйшых групаў. Выступалі прадстаўнікі нашых падшэфных організацый: трэцяга палка Асобага Назначэньня і Ізмайлаўскага лясьніцтва. У мінулым годзе многія вучні па асабістаму жаданьню хадзілі ў

# Днямі загарэлымі.

Бронзавае лета
Дзе ні глянь навокал.
І бягуць-мінаюць
Залатыя дні.
Зацьвілі абшары,
Дзе ня кінеш вокам,
А на межах-стужках
Ды парос быльнік.

Ў шырыні прастораў
Залатыя нівы
Песьні разьліваюць
Ціхія свае.
А ў зялёным лузе
Над ракой гульлівай
Штосьці расьпявае,
Шапаціць аер.

І цячэ рачулка,
Хвалі разганяе
Між кустоў шаўковых,
Вольхі і ракіт.
Ён сядзіць, схіліўся,
Рыбу наглядае,
І сачыць Алёша
За нутром ракі.

Раптам скалануўся
І пашоў у воду
Лёгенькі і чулы
Паплавок з кары.
Аляксей ня дрэмле:
Раз! турзець за вуду!
І хвастом віляе
Плотачка ўгары.

Рыбку ён хавае,
Закідае вуду.
Закідае вуду,
І глядзіць на дно.
Мільгане у думках:
Рады дома будуць!
І сядзіць, чакае
Плоткі ён ізноў.

**С. Ліхадзіеўскі.**



Шырока разгортваецца соцыялістычнае будаўніцтва ва ўсіх галінах жыцьця нашага Саюзу. Дзе раецца новае жыцьцё. Поруч з вялізарнай электрастанцыяй у Аршанскай акрузе ў Беларусі б зьмясьціць усе шматлікія аудыторыі, габінэты нашага унівэрсытэту,

# Піонэры на сцэне.

*(Нарыс).*

### — Пусьцеце нас.

Ля дзьвярэй моцны шум ад дзіцячых галасоў. Усе мітусяцца, штурхаюцца. Кожнаму хочацца праціснуцца наперад, у залю клюбу.

— Дзеці!—крычыць вартаўнік клюбу,— супакойцеся! У залі і бяз вас шмат людзей, як селядцоў у бочцы, а тут яшчэ вы штурхаецеся. Мы сёньня ўсіх вас пусьціць ня можам...

Частка прысутных, пачуўшы гэта, зьбіраецца йсьці. Дзіцячы натоўп паступова радзее. Але знаходзяцца і „бузацёры“ (гэта, галоўным чынам, неарганізаваныя дзеці), якія нездаволены тым, што іх ня пушчаюць; яны абавязкова імкнуцца праштурхацца ў памяшканьне цэнтральнага піонэрклюбу. Прыходзіцца самому загадчыку клюбу супакойваць дзяцей, угаварваць іх, абяцаць, што пусьціць у наступны раз...

### Як працуе дзіцячы тэатр.

У чым-жа справа? Што прымушае частку дзяцей стаяць доўгі час вечарамі перад будынкам клюбу з надзеяй трапіць туды? Чым прываблівае іх да сябе клюб?

Адказаць ня цяжка! Вабяць дзяцей пастаноўкі першага ў Менску піонэрскага тэатру, які організаваўся пры клюбе і наладжвае свае пастаноўкі.

Тэатр працуе ўсяго каля двух месяцаў, але ён здолеў стаць вядомым усяму дзіцячаму Менску. Кароткі час працы тэатру, моладасьць яго „актораў“ (11-15 г.), адсутнасьць у іх папярэдняй падрыхтоўкі (многія йграюць на сцэне ўпяршыню) не пашкодзілі тэатру падрыхтаваць шэсьць сцэнічных пастановак, якія заўсёды ставяцца пры перапоўненай залі, і якія часта перапыняюцца гучнымі воплескамі гледачоў.

Наш малады тэатральны колектыў складаецца з надта здольных сяброў. Гэтыя „актёры“ вельмі цікавяцца сцэнай, іграюць з вялікім уздымам і запалам. Нават дарослы, сапраўдны актор можа пазайздросьціць уважлівасьці і цямлівасьці нашых сяброў.

Што канкрэтна падрыхтаваў наш колектыў да паказу на сцэне?—„Самі“ (інсцэніроўка з жыцьця дзяцей Індыі); „Маленькі акрабат“ (п'еска з цыркавога жыцьця); „Малады камунар“ (МЮД'аўская пастаноўка) і т. д.

Дзеці ня толькі йграюць на сцэне, яны яшчэ самі робяць дэкарацыі да пастановак, шыюць гарнітуры; пастаноўкі заўсёды праходзяць у грыме з добрымі гарнітурамі.



ь за днём пакрысе, патроху ўзьнімаюцца ўгору ўсё новыя і новыя будынкі, у нутры якіх зага-
удуецца вялізарны унівэрсытэцкі гарадок у г. Менску. Гэты гарадок у сваіх будынках зможа
які цяпер раскіданы па ўсяму гораду. На здымках будоўля гарадка.

## Едзем у вёску.

Але ня толькі сярод гарадзкіх дзяцей карыстаецца вядомасьцю наш тэатр. Ён атрымаў некалькі запросін аб прыезьдзе ў раёны.

Гэтымі днямі адбыўся выезд тэатру ў Астрашыцкі Гарадок. Тут ставіліся два спэктаклі: адзін для дзяцей, другі для дарослых. Спэктаклі прайшлі з надзвычайным посьпехам.

Некаторыя дзеці і сяляне да таго былі захоплены гульнёй на сцэне, што ледзь ня плакалі, перажываючы сумныя прыгоды „маленькага акрабата“ і інш. На разьвітаньне прасілі колектыў наведваць мястэчка часьцей.

Тэатр гэта і будзе рабіць для абслугоўваньня дзіцячага гледача.

## Нашы недахопы.

Але пры ўсіх сваіх посьпехах наш малады тэатр не пазбаўлены і недахопаў, над якімі прыдзецца падумаць тэатру.

Перш за ўсё, тэатр ня ставіць пакуль што п‘есак на беларускай мове. На нашым кніжным рынку маецца нямала дзіцячых сцэнічных твораў, выданых БДВ і „Чырвонай Зьменай“, і адгаварвацца адсутнасьцю беларускага рэпэртуару, як гэта робяць кіраўнікі тэатру—немагчыма.

Далей мы павінны адзначыць беднасьць тэатру, бо цэнтральны піонэрскі клюб можа адпушчаць на тэатр самыя абмежаваныя сродкі.

Па зьнішчэньні гэтых недахопаў тэатр здолее яшчэ лепш паставіць сваю працу, узбагаціць рэпэртуар, палепшыць якасьць сваіх пастановак і прыцягне да сябе яшчэ больш гледачоў з дзіцячага асяродзьдзя.

Я. З.



*Маладыя артыстыя на сцэне.*

# ДАЁШ ЗДАРОВЫ БЫТ НОВЫ.

*(На сцэне: крэслы, стол, на якім пачак папярос, карты. Уваходзяць 2 піонэры).*

1-шы піонэр.

Ох, зьнямогся, здалёку цягліся.
Мне казаў павадыр—дый ня раз—
Як дарогай ідзеш, ня пыліся,
Бо ў брудзе ты й так уграз.

*(Перадражнівае).*

Разьмяшчайся на крэслах ці ложках,
Ня трацячы часу—хутчэй-жа!

2-гі піонэр.

Аднага ўразумець мне ня можна,
Што, Янка, у цябе за адзежа?

1-шы піонэр.

Што адзежа? Падраліся порткі.

*(Аглядае сябе).*

Пролетары заўжды так рос.

*(Падыходзіць да стала, бярэ пачак папярос).*

Вось, мне падабаецца вельмі
Муштук ад такіх папярос.

2-гі піонэр.

Чырвоныя гальштукі носім
І курым папяросы.

1-шы піонэр.

І, як дарослыя, важна, бяз дуру
Пасядзім, паталкуем, пакурым.

2-гі піонэр.

Мне казалі сябры усе нашы:
Ад курэньня бывае кашаль.

*(Зацягваючыся кашляе).*

Ну і дрэнь, ну і дрэнь дый толькі,
Да курэньня ня маю я цёнгу.
Слухай, Янка, давай мы з толкам
Лепш у карты з табою сьцёбнем.
Крый! званковая дама.

*(Гуляюць. Пауза. За кулісамі чутны крыкі).*

Здаецца, ідзе сюды мама!

1-шы піонэр.

Зноў мяне будзе лаяць.

*(Хавае папяросу).*

2-гі піонэр.

Дамоў мне пара даць драла.

1-шы піонэр.

Пасядзі, што гарачку ты пораш.

2-гі піонэр.

Не, пайду, не папасьці-бы мне ў бяду,
Я сказаў, што з атраднага збору
Праз гадзіну дамоў прыду.

*(Адыходзіць).*

*(Пауза. Уваходзіць маці).*

Маці.

Ах, на вуліцы колькі пылу
Узьнялі піонэраў рады!
Што гэта, вы курылі?

Янка.

Не...

Маці.

А адкуль тытуновы дым?
Янка, Янка! скажы мне, дзе ты
Навучыўся тытун курыць?
Ходзіш брудны растрэпай адзеты,—
Так хадзілі адны дзікуны.
Вох, ты вох, ты нядоля наша,
Адбіўся зусім ад рук.
Прыспасаць на цябе рубашак,
Дык ня хопіць 2-х тузінаў штук.
Зубы жоўтыя, нос смаркаты,
А на шыі гразі на вяршок.
На паліцы стаіць ня кратан
Забыты зубны парашок.

Янка.

Ну, дык што, што ўчарнела кашуля,—
Глупства шыя й адзежа зусім.
У атрадзе нагрузку нясу я,
Не магу-ж я пасьпець ва ўсім.

Маці.

Добра, добра, Янка, веру,
Усё памые й пачысьціць маці...

Зачыні лепш пайдзі вось дзьверы,
Дый пара ўжо, здаецца, спаць.

(*Адыходзіць, Яначка пазяхае і за сталом засынае. Уваходзяць карта і пачка папярос*),

Карта.

Няма гуляк спрытней за Янку,
Янка карты любіць так,
Што гуляе ў іх пад лаўкай
Нават ў школе ён у смак.
Ён і дома не падгадзіць,
Падтасуе—проста шык!—
Аж ня рады у атрадзе
З Янкі ўсе таварышы.
Ну і што-ж, няхай атрад
Карцёжным Яначкам ня рад.
Ну, а я, ура крычу—
Бо такой гульні хачу!

Папяроса.

Слухайце самым уважлівым чынам,
Я вам раскажу маладым.

(*Працяжна*).

Пакахаў піонэр-хлапчына,
Тутуновы сьмярдзючы дым.
Ён ня знае, што з дымам разам
Ідуць хваробы да нас і сьмерць.

(*Паказвае на сьпячага, да публікі*).

Дык, дамо-ж яму новую назву:—
Ён карцёжнік ліхі і курэц;
Хто з вас сохнуць ды гаснуць ня хоча,
Ды труціць свае дні тытуном...
Стой на варце і ўдзень і ўночы,
Піонэрскі санком!

Карта.

І крычым мы рассаднікі хмуры,
Ды бязглуздых дзяцей заклікаем...

Папяроса.

(*Частуе сьпячага*).

Пакурым, га, Янка, пакурым,
Згуляем, Янка, згуляем.

Разам:

Хто гультаіць, гуляе ды курыць,
Ды адзежа, як транты на ім,
Ня бываць таму ленінцам юным
Ды ня жыць ў піонэрскай сям'і.

(*Адыходзяць*).

(*Пауза. Уваходзіць зубны парашок і мыла*).

Зубны парашок.

Прывычкі ў Янкі—ня боляй і ня меней...
Цудоўны сродак я ад іх знайшоў.
І папяросы хутка зьменіць
Зубная шчотка з парашком.

(*Перасьцерагае*).

Чаму чырвоны гальштук носіш?
Лажыцца пляма на атрад...

(*Бярэ папяросы і карты, кідае на падлогу*).

Кідай, браток мой, папяросы,
Звальняйся хуценька ад карт.
Каб ты вадою сонцам і паветрай
Загартавацца змог—дык слухай,
Кажу я праўду, ты павер мне

(*Кланяецца*):

Вось парашок к тваім паслугам.

Урна.

Тлумачыць ён аб рэволюцыі культурнай,
Нават кліча сябе актывістым,
А ня хоча лічыцца з урнай,
Каб было ў памяшканьні чыста.

Мыла.

Яначка-бязглузьнік,
Брудны да таго-ж,
Ходзіць як галуза,
На каго ён схож?
Янка, хопіць сілы,
Заўтра-ж, мілы мой,
Засябруйся з мылам, з чыстаю вадой!

Разам.

А каб зьменай магутнаю быць,
Да змаганьня гатовым, спраўным—
Аздараўляйце-ж свой вы быт,
Не бярэце з такіх вы прыклад.

Зубны парашок.

Пераможам хваробаў мы рой
Ахайнасьцю ды чыстатой.

(*Пауза. Янка прасыпаецца ды праціpae вочы*).

Яначка.

Не дарэмна аблаяла мама,
Калі ўчора я клаўся спаць.
Галава і ўначы ня кідала
У горкім чадзе карцёжным лунаць.
Не, ўжо досыць, дурное прэч я
Кіну ў самы бліжэйшы час.

(*Да публікі*).

Усё, што уночы сягоньня бачыў,
Добры ўрок для мяне і для вас.




# Дзіцячы сон

Верш К. Шавеля.

Я помню: радасна цьвіло
Маё дзяцінства дарагое!
Ганяў каровы за сяло,
Туды, на луг, на зелень, гоні.

Бывае —
Толькі-што усход
Распаліць сонца дзіўным бляскам,
А я іду ужо ў „паход",—
Заўджы я пугай звонка ляскаў.

Бывае —
Коні павядзеш,
З сабой захопіш і газэту.
Тады і дзень хутчэй ідзе,
Як мчышся думкай па сусьвету.

Адзін раз, коні пасучы,
Заснуў я моцна пры газэце.
Заснуў і сьню, як уначы,
Вайны сусьветнай дзікі вецер...

Хвілінаў пяць—я крыху чуў,
Часопісь хлопцы як чыталі.
І перадаць вам тут хачу,
Што сталася са мною далей...

Я апынуўся на лугу,
На залатым лугу і сьветлым.
Уздоўж яго руччы бягуць,
Журчаць гамонкаю найветлай.

Зірнуў направа—хмары там.
Ня знойдзеш места тут пустога...
Налева—там абшар расстаў
У косах сонца залатога.

А хмары сунуцца, плывуць,
З-за хмар і полымя шугае.
І кроплі сыплюцца ў траву,
Што патанула ў кветках мая.

Зайгралі трубы: Тра-ля-ля!
„Сьмялей-жа, хлопцы, гэй ударым!"
І загарэлася зямля
Ураз пажарам.

Падняўся злосны гураган.
Гараць дубы, трашчаць ад ветру.
Адна, другая, як мага
У паветры лётаюць ракеты.

Усё ў полымі агню:
Лугі, лясы, палі, дубравы...
Спраўляе сьмерць сваю гульню,
Сваю пацешную забаву.

Лятае ў хмарах Чэмбэрлен,
За ім-жа дзікай зграяй лёрды.
Ня ўзяць чырвоных войск у плен,
Бо крок у іх рашучы, цьвёрды!

Разьбіт варожы араплян,
Чырвоны-ж кружыцца ў прасторы...
У агні гудзе ангельскі танк —
Прарэзаў гай, лясы і горы.



*Хвілінаў пяць—я крыху чуў,*
*Часопісь хлопцы як чыталі.*



*І на зямлю ляцяць цяжкою хмарай лёрды.*

Ўзарвалі мінай танк ураз...
Ды тут на армію чырвоных
Пусьцілі чадны, едкі газ
Зараз мо‘ з тысячы балёнаў.

На газы ёсьць працівагаз...
Для войска газ ня служыць пленам...
Аж раптам—гул гарматны—раз!!!
Цыліндр зваліўся ў Чэмбэрлена.

Агонь сьціхае, й на зямлю
Ляцяць цяжкою хмарай лёрды,
Ды ў балота разам—шлюп!—
І грунт для іх зусім ня цьвёрды...

Іх праглынулі нетры ўсіх.
Аж чую зноў зайгралі трубы.
Ідуць, бягуць, з усіх тых сіл—
З Гвінэі, Індыі ды Кубы...

Зайгралі трубы ветла зноў.
Той самы луг ды шмат народу...
Не пагражае нават ноч
Сваімі хмарамі з Заходу.

Прыгожы, спрытны, малады
Ваяк чырвоны з кулі вышаў
І ўзьлез высока ён кудысь,
І гаварыць пачаў з узвышша.

Ўзьнімалі рукі да яго
Стальным, мільённым дружным лесам,
Прад ім схілілась шмат галоў,
Прад яго гутаркаю-песьняй.

Ваяка кончыў гаварыць,
І марш зайгралі музыканты.
Паслухаў я хвіліны тры
І... сон разьвеяў свае шаты...

Прачнуўся я, і нейкі сум:
Чаму—ня знаў, а што там далей?!
Зьядала сонца ўжо расу,
А хлопцы ўсё яшчэ чыталі.

## МАЛАЦЬБА.

Яшчэ цемрай імгліць
Па-над вёскаю ноч,
А ў вакенцы агні
Пазіраюць даўно.
Ужо ўстаў селянін—
Ён з сям‘ёй на таку.
Па-над вёскай чуваць
Нясупынна—тук, тук!..
Звонкі пошчак ляціць
Праз гумно на раку...
Разьлягліся снапы
Ў два рады на таку.
Прытуліўся к сьцяне
Курадым-газьнічок:
Куламесіцца пыл,
Мільгаціць аганёк.
Цені скачуць-паўзуць
Ў цёмна-пыльных кутках.
Дружна шчырай сям‘ёй
Б‘юць снапы па снапох.
Спрытна б‘юць яны ў лад:
Тук, тук, тук, тук, тук, тук!
Ад кудлатых снапоў
Зёрны шротам лятуць.
І нясецца ў прастор
З-пад саломеных стрэх
Гоман-гул грамады,
Звонка-радасны сьмех:
„Заўтра к нам прывязуць
Малатарню з сяла:
Дамалоцім у міг,
Бо чарга к нам прышла“...

Я. Івашын.



# ВОЎЧЫЯ ЯГАДЫ.

У лесе ёсьць палянка. На ёй густая мураўка, красачкі і маленькае балотца, у якім крэкчуць і булькаюць жабы. А навокал гэтай палянкі стаяць хвойкі, елкі. Прытулілася паміж іх бярозка, две асіны і рабіна.

У час навальніцы адна з гэтых хвоек зламалася і перакінулася цераз палянку проста верхавінкай у балотца.

Сёньня весела на палянцы. Сюды зірнула сонейка. Тут лётаюць стрэлкі, „таўчэ мак“ машкара. У лесе на дрэвах сьпяваюць птушачкі, тукае дзяцел. Неяк асабліва з прыціскам крэкчуць жабы. Толькі зязюлі ня чуваць: у ліпені яна ўжо маўчыць.

— Хадзеце сюды!—раптам пачулася каля палянкі, і цэлая гурба дзяцей з лубкамі, кошыкамі выбегла на палянку.



*Абавязак большага даглядаць за меншым.*

Стала яшчэ весялей. Дзіцячы сьмех і гоман напоўніў усю палянку, і адгалоскі далёка разьнесьліся па лесе. Заблішчалі сіняватыя, чорныя, шэрыя вочкі.

— Вось тута добра будзе адпачыць,—кажа Марыля, самая большанькая з дзяўчатак.

У яе ледзь ня поўная лубачка суніц. Яна садзіцца на мураўку. Каля яе разьмяшчаецца ўся гурба дзяцей. Шчочкі іх зачырванеліся.

— Во, як горача сёньня!—кажа Васіль,—каб ня топкае балотца, зараз-бы купацца пачаў. Пайду хоць твар ды галаву памачу вадой. Вельмі горача.

— І я з табой,—дадаў Максім:—глядзеце, дзяўчаты, не чапайце нашых ягад.

— Ня будзем,—адказваюць яму.

— А я паспытаю,—сьмяецца Марыля,—можа тваe смачнейшыя.

Хлопчыкі паставілі свае кошыкі воддаль ад дзяўчат і пайшлі на балотца.

Маленькая Арынка, у квартачцы якой менш чым ува ўсіх ягад, цягае і апошнія пальчыкамі ў рот. Яна ўжо захацела піць і есьці.

— А дзе-ж гэта Якуб?—спыталася Ганна і зірнула навокал,—як гэта мы ня прыкмецілі, што яго няма?

— Ён-жа ішоў з намі вось нядаўна, я сама бачыла,—дадае Хрысьціна.

— Якуб, Якуб, ау-у-у!..—крыкнула Марыля.

— Я тута,—пачулася з лесу зусім блізка ад палянкі.

— Хадзеце сюды, тут ягад многа. І чырвоныя і чорныя на адным кусьце разам!—крычыць Якуб.

Дзяўчаткі ўсхапіліся і пабеглі. Бачаць—Якуб стаіць каля куста, на якім шмат чырвоных і чорных ягад. Ён ужо набраў іх поўную квартачку і цяпер пачынаў есьці. Якуб зусім яшчэ невялічкі хлопчык. Яму гадкоў шэсьць. Ён першы раз у ягадах. Ён вельмі рады, што знайшоў гэткі куст ягад, і з гонарам пазіраў на дзяўчат.

— Бачыце, якія знайшоў?—кажа ён дзяўчатам.

— Во дурны, гэта-ж воўкавы ягады, іх-жа нельга есьці. Выплюнь тое, што ў роце,—крыкнула Марыля, схапіла кварту з ягадамі і высыпала іх на зямлю.

Якуб зьдзіўлена паглядзеў на Марылю і выплюнуў ягады.

— Ці многа ты іх пад'еў,—спыталася Ганна.

— Не,—адказаў Якуб,—я ўсё ў кварту шчыпаў, а цяпер толькі пачаў есьці.

— Глядзі-ж ніколі ня еж гэткіх ягад, а то атруцішся і памрэш,—дадала Марыля.—Я калі першы раз хадзіла з мамай у грыбы, дык набрала і мухамораў і паганак. Сьмеху было!.. Ня ведала яшчэ. Цяпер ведаю, якія грыбы і ягады трэба зьбіраць!

— Дзяўчаты! Хадзеце ўжо,—пачулася з палянкі,—а то мы ўсе вашы ягады зьядзім!

Усе хутка пабеглі на палянку і навыперадкі пачалі расказваць Васілю і Максіму, як Якуб набраў поўную кварту воўкавых ягад і пачаў ужо іх есьці.

— Што, смачныя ягады?—папытаўся у Якуба Васіль,—добра, што трошкі зьеў.

— Яны ня смачныя,—адказаў Якуб.

— Ах ты, воўкава ягада! Гэта табе навука. Будзеш ведаць, што не ўсялякую ягаду можна ў рот класьці. Чаго ня ведаеш, трэба папытацца.

— Во як!—дадаў Васіль,—ну, айда! трэба кошыкі дапоўніць.

І вясёлая гурба дзяцей пакінула палянку. Сьмех і гуканьне яшчэ было чуваць на палянцы, але яны сталіся ўсё цішэй і цішэй. Скора і зусім змоўклі. Сьмялей пачалі кракаць жабы ў балотцы.

**А. Цітава.**



*Маленькі гаспадар.*




*Верш* Юлі Таўбіна.

*Малюнак* П. Гуткоўскага.

Вот і восень тчэ рады
Бледных хмар у высі;
І спакойныя сады
Сокам наліліся.

Іх санлівасьць і спакой
Вецер не парушыць...
Толькі шэпчуць між сабой
Яблыкі ды йгрушы.

Ўсе гатункі, ўсе сарты
Сабраліся разам,
Забаўляюцца плады
Ціхазвонным сказам.

Згуртаваўся ўвесь народ,
Заняўся размовай...
Нават горды бэргамот
Ўносіць прапанову.

„Так і так,—гаворыць ён,—
Трэба пагадзіцца...
Прапаную выгнаць вон
З саду мядуніцы.

Між заморскіх фруктаў-дзіў,
Розных смачных рэчаў,
Што за дурань насадзіў
Гэткую малечу?

Толькі нішчаць дарма тлен
Уначы іх лісьце...
А ці бачыў хто ў іх плён?
А ці меў карысьці?..

А што праўду гаварыў,
Сьцьвердзяць вам падпанкі—
Паважаныя сябры,
Грушы-сапяжанкі..."

Тут і зьнікла цішыня...
Шум і крык бяз меры...
Што тут зробіць старшыня
З роду слуцкіх бэраў?

Звоніць, звоніць, звоніць ён,
Ды няма ўжо рады:
Заглушаюць гэты звон
Буйныя адказы.

Гэта яблыкі цяпер
Узьнялі галовы.
„К чорту! Досыць! Слухай, бэр!
Прыпыняй прамовы!.."

І антонаўка крычыць
Голасам парыўным.
„Стойце моцна! Мядуніц
Не дамо у крыўду!.."

Разашліся у далі
Фрукты-забіякі...
Ну, і спрэчкі-ж завялі,—
Не дайшло-б да сваркі!

Што з таго, што ўкол імгла,
Што усё застыла,—
Гэта восень ім дала
І жыцьцё і сілу.



## Ёсьць вынікі.

Ляднянскія местачковыя атрады колектыўна апрацавалі агарод. Агарод належаў райміліцыі, якая аддала яго ў карыстаньне піонэрскім атрадам. Дрэнныя былі ўмовы апрацоўкі агароду. Усе ўстановы са зьдзіўленьнем глядзелі на піонэраў і на іх работу.

Трэба падзякаваць партыйнай ячэйцы, якая ішла насустрэч нашай рабоце.

Яна давала нам каня, а піонэры даставалі хамут, плуг, барану і другія прылады. Адны аралі, другія скародзілі, дзяўчаты рабілі грады. Да нас прыходзіў аграном і мы разам з їм пасадзілі турнэпс, кармовыя буракі і другое насеньне.

Цяпер ёсьць і вынікі ад нашай работы.

(Ляды). **Файтлін.**

## Гэтага не павінна быць.

У мінулым годзе ў нашай школе быў такі выпадак. Аднэй вучаніцы ў час перапынку нехта з вучняў-бузацёраў у час гуляньня падставіў „ножку“.

Вучаніца Р. разьбіла сабе галаву, і ад гэтага пасьля страціла зрок.

За гэту справу 8 чалавек было выключана з школы.

Памойму, у гэтай справе хутчэй можна абвінавачваць ня 8 чалавек, а работу нашага фарпосту і вучкому, якія выхаваўчай работы сярод вучняў не праводзілі. Дрэнна, калі вучком на сваіх паседжаньнях разглядае толькі спрэчкі вучняў, а гэта часта бывае.

Вось, напрыклад, чаму вучком ня можа організаваць у час перапынку цікавых гульняў? Тады менш будзе і боек.

**В. Аўрорац.**

(1-ая шк. Зах. чыг. Менск).

## Наша нявыхаванасьць.

Ня гледзячы на тое, што летась у „Б. П.“ пісалася аб нашай нявыхаванасьці, нашы вучні ў школе вельмі дрэнна вядуць сябе.

Напрыклад: вучні пішуць алоўкам, на партах, сядзяць у шапках, тады, калі кожны дзень настаўнік на іх крычыць. Здараліся выпадкі, калі вучні зьвярталіся да настаўніка на „ты“.

Час ужо вучням стаць больш культурнымі.

**Вучань.**

(Карма, 7-хгодка).

### Гора-рацыяналізатар.



— Ты што прымус паламаў?!
— Ах, пакінь з гэтым! Ты хіба ня бачыш, што я ўдасканальваю гэты прымус. Па майму праэкту ён павінен сам налівацца газаю, сам запальвацца, сам мяшаць суп, і званіць, калі суп закіпіць...

## Новая хваля.

У шмат якіх атрадах гораду Барысава пачалі организоўвацца добраахвотныя групы рыбаловаў, кніжкі і газэты, фізкультуры, турыстых, кіно-прыхільнікаў і др.

Гэтыя групы ажыўляюць работу нашых атрадаў.

С. Гурэвіч.

(Барысаў).

## Дзе яшчэ так робяць?

У працягу месячніка па барацьбе з бяспрытульнасьцю наш атрад імя Чырвонай арміі сабраў на карысьць бяспрытульных 2 р. 50 к. Думаем, што за гэту работу возьмуцца і другія атрады і школы.

Файтлін Ф.

(М. Ляды).

## Вельмі разышліся.

Нашы вучні і піонэры вядуць сябе вельмі дрэнна. Асабліва гэта не да твару піонэрам, якія павінны даць усім прыклад, а яны кураць і гуляюць у карты. Калі толькі скончацца лекцыі, піонэры і вучні закурваюць папяросы, ідучы дамоў.

Наша думка: лепш кінуць гэтыя нікчэмныя справы і ўзяцца за выкананьне законаў і звычкаў юных піонэраў.

Дзяткоры: К. А. Г. Э.

(Старобін).

## На варце.

Даўно, даўно патухлі аганькі.
Стаю адзін я. Думаю, гадаю.
І да грудзей сырой, зямлі
Са стрэльбаю ціхутка прылягаю...

А навакол нямая цішыня.
І рвецца жоўты месяц вышай, вышай...
Ды толькі дзесьці прашуршыць трава
І лёгкі ветрык лісьце закалыша...

Усё вакол стаіць у цемнаце,
З вачэй прапала пыльная дарога.
Трывожаць думкі буйныя мяне,
І іх сягоньня многа, многа...

Я бачу цень—праходзіць чалавек,—
Я цішыню пытаньнем прарываю:

— Хто?

— Свой,—адказ ён кінуў мне,
Ды зноў усё нямее, заціхае.

А я стаю. Гляджу у цемнату,
І нехта да мяне падходзіць бліжай.
А зорак цені палі у раку,
А месяц хмары бязупынна ліжа...

Мацней прыцісную стрэльбу я к плячу,
Гляджу у даль дарогі невялікай.
І морыць сон... Я моцна спаць хачу.
Лічу усё хвіліны... зьбіўся з ліку...

Даўно, даўно патухлі аганькі,
А я так многа думаю, гадаю...
І да грудзей разьмякнуўшай зямлі
Са стрэльбаю ціхутка прылягаю...

А. Розна.

### Пачынай спачатку.



І мы павінны раскуць тысячагадовыя путы няволі! І гэта будзе наш астатні і рашучы бой! І новы быт зазьзяе, быццам зорка, на небе комунізму! І мы даб'емся вызваленьня працоўных! І мы павінны!..

(Пачынай спачатку).



„Залатая рыбка“—*вышывальная праца вучняў Менскай чыгуначнай школы.*

## Вандроўны атрад.

У гэтым годзе пры нашай ячэйцы № 2 быў арганізаваны атрад імя Галадзеда, які абхапіў каля 50 чалавек. Піонэры вельмі ахвотна аднесьліся да працы; яны стараліся, каб іх атрад працаваў ня горш за іншыя.

Але-ж жаданьне піонэраў ня можа збыцца: атрад ня мае свайго кутка—клюбу.

Райбюро піонэраў! паклапаціся зрабіць тое, каб зьнішчыць дарэмнае вандраваньне гэтага атраду з клюбу ў клюб.

**М. Дубік і Т. Цалка.**

(Петрыкаў).

## У карысьць бяспрытульных.

Сонечная, цёплая раніца... У мястэчку Зэмбін кірмаш. З усіх ваколічных вёсак ідуць і едуць сяляне. Хутка людзкі натоўп запаўняе амаль увесь досыць вялікі пляц на рынку.

Пасярод жывога людзкога мора ідуць двое дзяцей: на шыі ў іх піонэрскія гальштукі, а ў руках маленькая кардонная скрыначка, на якой напісана: „у карысьць бяспрытульных“. Гэтыя піонэры адразу нясьмела, а потым сьмялей падыходзяць да сялян і тыя не адмаўляюцца і кідаюць грошы ў маленькую шчылінку скрыначкі.

Увечары робіцца падлік. Выяўляецца, што ўсіх грошай сабрана 4 рублі з капейкамі. Ня вельмі многа, але калі-б усе піонэрскія атрады Беларусі сабралі хаця-б і пагэтулькі, дык атрымалася-б вельмі вялікая сума.

Піонэры, памятайце, што і бяспрытульныя—людзі, якім патрэбна жыць, і ўсімі сіламі дапамагайце ім.

**Е. Зомэрфэльд.**

(Зэмбін, 31 піонэр. атрад).

## Улетку працавалі.

У летняй рабоце нашага атраду нам вельмі добра дапамагалі вучні-комсамольцы, якія былі ў вёсцы на летніх вакацыях. Пры іх дапамозе атрад правёў тры начоўкі ў лесе, экскурсію ў с/савет, дзе мы знаёміліся з работаю с/савету. Організоўвалі вечары, спэктаклі, на якіх праводзіліся гутаркі з дзецьмі. Нашай работай цікавяцца нават дарослыя сяляне.

**Піонэр.**

(Красналукі, Халопеніцкі раён, Менскай акругі).

## Так нядобра.

Кіраўніком Стара-Барысаўскага лягеру ў нас быў адзін комсамолец Каплан. Ён часта ня мог угаворам зрабіць уплыву на піонэраў, і праз гэта пачынаў біцца.

Аднаго піонэра ён выцяў нагой і яшчэ цяпер у гэтага піонэра ёсьць знак.

Што гэта за адносіны з боку нашых кіраўнікоў? Ці не падумае над гэтым бюро Ю. П.?

**К. С.**

(Барысаў).

# Старонка фокусаў.




## Кураня ў яйцы.

З прамасьленай паперы зрабеце экран для гэтага можна проста зацягнуць такой паперай квадратовы выраз у аркушы кардону. Ззаду экрану зьмясьцеце дзьве лямпы. Вашы госьці будуць сядзець сьпераду экрану, па другі бок. Адну лямпу,—напрыклад, левую,—запалеце. Паміж запаленай лямпай і экранам пастаўце на дроце авальны кавалак кардону — на экране зьявіцца, зразумела, цень яйца (правая лямпа пакуль што не запалена). Тады вы кажаце гасьцям, што зараз прапусьціце праз яйка „праменьні Рэнтгена“, з дапамогаю якіх выявіцца, што ў сярэдзіне яйца знаходзіцца... кураня! І сапраўды, праз момант госьці бачаць, як цень яйца быццам сьвятлее па краёх, а ў сярэдзіне яго досыць выразна вырысоўваецца цень кураняці.

Разгадка фокуса вельмі простая. Вы запальваеце правую лямпу, на шляху праменьняў якой зьмешчаны кардонны контур кураняці. Частка авальнай цені, на якую не накладаецца цень ад „кураняці“, асьветлена правай лямпай, з прычыны чаго краі „яйца“ сьвятлейшыя за ўнутраную частку. Гледачы-ж, што сядзяць па той бок экрану і нічога ня ведаюць аб вашых дзеяньнях, могуць і сапраўды ўявіць, што вы прапусьцілі праз курынае яйцо праменьні Рэнтгена.

## Сухім з вады.

Палажэце гузік на вялікую роўную талерку, наліце столькі вады, каб яна пакрыла гузік, — і запрапануйце сваім гасьцям узяць гузік проста рукамі, не памачыўшы пальцаў.

Гэта, здавалася-б немагчымая, задача досыць проста можа быць разьвязана з дапамогаю шклянкі і запаленай паперкі. Запалеце паперку, палажэце яе ў сярэдзіну шклянкі і хутка пастаўце шклянку на талерку каля гузіка дном угору. Паперка хутка згасьне, шклянка напоўніцца белым дымам, а затым пад ёй сама-сабою зьбярэцца ўся вада з талеркі. Гузік-жа, зразумела, застанецца на месцы, і праз хвіліну, калі ён абсохне, вы зможаце ўзяць яго, не замачыўшы пальцаў.

## Папяровая каструля.

Ці можна зрабіць каструлю з звычайнай паперы?

Здавалася-б, не. Зірнеце, аднак, на малюнак: яйцо гатуецца ў вадзе, налітай у папяровы каўпак!

— Але-ж папера загарыцца, і вада заліе лямпу,—скажаце вы. Але спрабуйце зрабіць досьлед, і вы пераканаецеся, што папера не загарыцца.

Прычына тут тая, што вада можа быць нагрэта ў адчыненай пасудзіне толькі да тэмпэратуры кіпеньня, г. зн. да 100° Цэльсія; з прычыны гэтага, награваемая вада, убіраючы лішак цеплаты паперы, не дае ёй нагрэцца шмат вышэй за 100°, г. зн. нагэтулькі, каб яна магла загарэцца.



937

1А 12 кап.

# ПАДУМАЙ!

**Рысавальныя галаваломкі.**








Згодна даўнейшых апавяданьняў фігура (м. л. 1), якая складаецца з двух пера-се ...ых паўмесяцаў, уяўляе з сябе под-пі... Магамета, што жыў у першай палове V... стагодзьдзя пасьля нараджэньня Х...ыста.

Магамет рабіў гэты подпіс вострым ...цом мяча.

...прабуйце і вы адным захадам, не ...імаючы алоўка ад паперы, намаля-...ь гэтую фігуру.

...прабуйце зараз, таксама не аднімаючы ...ўка, правесьці па лініям усіх астатніх ...эшчаных тут малюнкаў.

## Задачы.

... Паспрабуйце за 100 руб. купіць 100 ... жывёлы: валоў, кароў і авечак.

...мовы: 1 вол каштуе—10 р., карова— ... 1 авечка—50 кап.

...і можна гэта зрабіць?

... Знайдзеце значэньне наступных ...лоў:

... Рэчка ў СССР—4 літары.

2. Дрэва ў лесе—4 літары.

3. Твор М. Горкага—4 літары.

4. Горны ланцуг у Эўропе—5 літар.

5. Беларускі пісьменьнік—8 літар.

Першыя літары гэтых слоў павінны даць назву ракі, якая цячэ ў Беларусі.

| |
|---|
| Б |
| А |
| Ы |
| Р |
| Х |
| Н |
| У |

3. Дадзеныя літары разам з чатырохкутнікамі перастаўце так, каб атрымалася фігура падобная на літару „Н“, і каб можна было прачытаць прозьвішча аднаго вядомага правадыра.

(Таланаў).

4. Перастаўце лічбы, якія растаўлены ў клетачках гэтага чатырохкутніка так, каб сума лічбаў па ўсіх напрамках была аднолькавай і, разам з тым, каб у адным напрамку ня было аднолькавых лічбаў.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 1 | 1 | 1 | 1 |
| 2 | 2 | 2 | 2 | 2 |
| 3 | 3 | 3 | 3 | 3 |
| 4 | 4 | 4 | 4 | 4 |
| 5 | 5 | 5 | 5 | 5 |





Жывы малюнак: пераводзьце вачыма з аднае фігуры на другую—што вы ўбачыце?

1-я друкарня БДВ. Заказ № 3166.—1050 Галоўлітбел № 1992.

# Аб усім папатроху.



## Будынак, які зьмяняе свой рост.

У вялікіх гарадох, пераважна ў заходніх, надзвычайна пашырана карыстаньне газавым апалам і асьвятленьнем. У кожным вялікім заходня-эўропэйскім і амэрыканскім горадзе патрэба ў ім нагэтулькі вялікая, што прыходзіцца заўсёды мець вялізныя запасы яго. Для гэтага будуюцца асобныя склады—газоўні. Гэта высокія глухія вежы, зробленыя з зыбістага (ваўністага) жалеза (гл. мал. зьлева).

Асаблівасьць іх тая, што яны ня маюць пэўнай вышыні. Кожны дзень яны зьмяняюць свой рост. Вышыня іх залежыць ад тэй колькасьці газу, які ў сучасны момант знаходзіцца ў іх. Пры поўнай нагрузцы гэтыя вежы падымаюцца высока над вакольнымі будынкамі, пры адсутнасьці-ж у іх газу—яны сьціскаюцца, зьніжаюцца да зямлі.



## З вэлёсыпэдам на дрэва.

У апошні час вынайдзен такі вэлёсыпэд, з дапамогаю якога сьмела можна ўзьбірацца ня толькі на дрэвы, але і на тэлеграфныя слупы.

## Паядынак.

Кіно-опэратару трэ' было зьняць арлінае гняздо. Забраўшыся высока на дрэва і замацаваўшы апарат, опэратар пачаў здымаць. У гэты час прылятае арол, гаспадар гнязда.

Опэратару прыходзіцца адбівацца і ў той-жа час трэба скончыць здыманьне (гл. мал. ніжэй).



## Муха шпарчэй за самалёт.

У Бразыліі вучоныя натрапілі на новы від мухі. Гэта нязвычайная муха, якая лётае ўтрая хутчэй за лепшы гоначны аэроплян, г.зн. 1300 км. у гадзіну, гэта муха ў 17 гадзін можа абляцець вакол земнае кулі.

Пакуль што аб гэтай мусе вядома мала, бо з прычыны надзвычайна хуткага палёту злавіць яе жывую нікому не пашанцавала. Але заўважылі, што яечкі свае яна адкладае ў ноздрах буйных жывёл. Каб вывучыць добра гэтую муху, хочуць узяць тыя самыя яечкі, якія яна адкладае ў ноздрах жывёл і выгадаваць з іх мух.

Дагэтуль яшчэ невядома, чаму яна можа лётаць з такой страшэннай хуткасьцю і не згарае ад паветра?

Тлумачаць вучоныя гэта тым, што валаскі, якія пакрываюць яе цела, затрымліваюць вакол яе сталую абалонку паветра. Як вядома, паветра—кепскі праваднік цяпла. Значыцца, тое цяпло, якое разьвіваецца пры яе палёце, павінна перш за ўсё нагрэць паветра, што знаходзіцца паміж валаскамі, а затым ужо муху.

## Мэханічны вартаўнік

Вынайдзеная інжынэрам ... аўнічая прылада ўяўляе з... вельмі дасканалае прыстаса... не для аховы ня толькі па... ных прадметаў, але і цэл... дынкаў.

Прадмет, які ахоўвае... чаецца з дротам, што... будку вартаўніка з сыг... цыйным апаратам. Як то... чалавек набліжаецца да прад... ту, які ахоўваецца, на адлегласьць 1—2 мэтры, адбываецца першы сыгнал „набліжэньня", затым, калі чалавек дакранецца да прадмету рукамі ці інструмантамі, падаецца другі сыгнал „датыканьня", а першы сыгнал у гэты час спыняецца. Калі чалавек спыніць сваю „працу" ля прадмету і паспрабуе адыйсьці— сыгналы падаюцца ў адваротным парадку. Нарэшце, калі злодзей пераразае дрот, дык падаюцца абодвы сыгналы.

---

**Вучні! Піонэры! Ці ёсьць у вашай школе часопіс „Бел. Піонэр."?**